ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

АДРАС РЭДАКЦЫІ: САВЕЦКАЯ, 59 ТЭЛ. № 17-09.

МАЙ 1931

# Чырвоная Беларусь

10



# БУДУЕМ УЗОРНЫЯ ІНКУБАТАРЫ!



ФОТО-ЗДЫМАК І. САЛАВЕЙЧЫКА




**Апавяданьне ЦІМОХА ЗАРЭЧНАГА.** **Малюнкі ДАВІДОВІЧА.**

Бяз дай прычыны паехаў на Палесьсе, у балоты журавінавыя і бары сасновыя. Яшчэ пазаўчора вочы праглядзеў тысячамі літар, слоў, сказаў,—яны мітусіліся перада мною, і сэнс часам растайваў у чатырох сьценках, і думкі разьбягаліся, як жывое срэбра, і празрыстая пусташ адчувалася ў нахмураным паветры; а ўчора ўжо—шырокая роўнядзь беларускай зямлі, сьлёзы неба па-за вокнамі вагонаў, скарбовыя будынкі падобных адна на адну станцый, заспана-замораныя постаці пасажыраў; а сёньня—вазьніца—хвіліна да зор і гадзіна да бліжэйшае вёскі, мястэчка з марамі аб тротуары і з сапраўднай дынама-машынай, спакойны і сур'ёзны твар сакратара райкому, гаспадарчы і крыху хітраваты погляд старшыні райвыканкому, пакалечаная дарога ў вёску Альховая; а заўтра—ціхі смутак апаўшых лістоў, стрэльба за плячыма, зялёная жытняя рунь і магчыма,— вельмі хочацца,—заяц у паляўнічай торбе.

Не даяжджаючы да Альховай, адаслаў вазьніцу, і цяпер іду па набраклай асеньнімі даждамі зямлі. Ноч дыша вільготнасьцю і ветрам паўднёвым, я наўмысьля зблудзіў з дарогі і плыву наўгадзь,—заглядваю на компас памяці і ўспамінаю: „пайшоў на цянькі, праходзіў два дзянькі“. Ральля ліпкая і цягучая,—мне здаецца, што мае боты нясуць астрожныя кайданы, а часам і зусім прырастаюць да пульхнай зямлі. Я стаміўся, і мне прыемна адчуваць дыханьне чорнае ночы — роўнамерныя згусткі вільготнага, важкага ветру; я скінуў шапку—валасы мае перабіраюць нейчыя шоўкавыя рукі, рашпіліў паліто — грудзі мае шчакоча ласкавы вецер...

Я зьбіраюся з сіламі, павялічваю крокі, але мне здаецца, што я зьяўляюся тым кавалачкам крэйды ў цыркулі, які бегае вакол аднае кропкі, апісваючы геомэтрычную акружыну; я памятую, што за гоні ад лесу пачынаюцца альхоўскія хутары, а на самым узгорку, на цягло ад рэчкі Ясень стаіць двор дзеда Антося. Я памятую, што напрамкі за чвэртку гадзіны я павінен быць ужо каля хаты дзеда Антося, але прайшло больш паўгадзіны і я ніяк не магу знайсьці яго хаты.

Забрахаў недзе сабака, і я, удзячны невядомаму Палкану ці Шарыку, пайшоў на яго брэх. Сабака не ашукаў: я апазнаў два сьлепаватыя акенцы хаты дзеда Антося, два воўчыя вокі ў цемені ночы. Мігаючае сьвятло ў вокнах напомніла аб недалёкім мінулым. Пазалетась я прыяжджаў у гэтыя мясьціны і жыў тут два тыдні. Дзед Антось вучыў мяне „браць на мушку“ вавёрку і зайца, варону і вераб'я, мядзяны пятак і самае сапраўднае гумно; апошняе мне вельмі падабалася. Хадзілі мы з дзедам карасёў і шчук лавіць, — вудамі і сецямі, нератамі і барадзнікамі,—з перасьветам езьдзілі ўночы па Ясеню.

Дзед меў выключную натуру, якіх мала цяпер знойдзецца на вёсцы. У вачох ягоных я заўсёды чытаў сумленнасьць Альховай і простую мудрасьць жыцьця. Меў ён невялікую беларусую бараду і вусы такія-ж; галава яго ня згубіла ні адзінага валаска; твар правільны, толькі нос ледзь-ледзь з гарбінкаю, паходня лёгкая і вольная ў рухах; а зубы ў дзеда — што тваё серабро.

— Дзеду, а дзеду, ты нешта хацеў расказаць? — запытаў я.

— Калі ўжо так цікава, дык паслухай...

І дзед расказваў мне паданьні пра курганы і вазёры, легенды і казкі, перадаваў пра ўсякія старасьвецкія здарэньні. Ні ад каго я ня чуў такіх прыгожых і займальных апавяданьняў, як ад дзеда Антося. У яго кожнае слова іскрылася і цьвіло чырвонаю ружаю багатай народнай мовы. Таксама любіў я слухаць разважаньні дзеда пра жыцьцё.

— Даўным даўно,—казаў дзед,—калі ня толькі мы, але і прадзеды нашы не хадзілі па зямлі, больш добрых людзей жыло на сьвеце. А чаму спытаеш, ёлкі-палкі зялёныя?—і дзед сьмяяўся ласкавым сьмехам і на мяне глядзеў пераможцам. — Прычыны былі на гэта. Скваппасьці, скнарасьці, зайздрасьці тады менш было, бо мужыкі ўсе галадалі, кару яловую елі, у лапцях ліпавых хадзілі ды шапку-маргелку зіму і лета насілі... Роўныя ды аднолькавыя былі тады мужыкі. А як пачалі адны багацець, а другія старцамі пайшлі па сьвеце белым, тады і пасялілася ў мужыкоў злосьць ня толькі на паноў, але і на сваіх багацеяў. От таму і ня трэба нам багатых. Сонца і вятох усіхнія, а таму і зямля і багацьце зямное павінны быць агульныя. Тады і мы будзем роўнымі. Толькі ня так як ранейшыя людзі—па маргелцы ды лапцях,—мы будзем аднолькавыя па рабоце і багацьці. А калі так, ёлкі-палкі зялёныя,—і дзед зноў ласкава ўсьміхаўся,—то і людзі будуць роўныя..

— У комуну, дзед,—падказаў я і глядзеў яму ў задумёныя вочы.

— А хоць-бы і так. Я на кожным сходзе кажу мужыкам... Работа не дае падумаць чалавеку. а то мы-б, глядзі, ёлкі-палкі зялёныя, Маскву-горад пабудавалі-б на беразе Ясеня...

Праўду зямлі чуў я ў словах старога і цьвярозую развагу розуму бачыў у марах дзедавых. Мяне ахапляла юнацкая шчырасьць,—я хацеў сесьці, разам з дзедам, адчуваць яго мазолістыя далоні ў сваіх руках, бачыць у вачох яго глыбокі смутак і расказаць пра нешта дзівознае і блізкае дзеду. Але я маўчаў, ахоплены павагаю да дзеда.

... І вось я зараз, праз некалькі хвілін, убачу дзеда, пачую яго словы ласкавыя...

Два воўчыя вокі асьвятляюць жытнія ўсходы і мае чорнае паліто: ня злы сабака, Дунай, здаецца, звонка і са смакам брэша на калісьці знаёмага валацужніка.

Скрыпяць іржавыя завесы дзьвярэй і нехта выходзіць з хаты. Мне хочацца, каб гэта быў дзед Антось. але грубае „цю-цю-цю“ зусім не ў яго манеры. Калі сабака завіляў хвастом і схаваўся ў сенцах, вышаўшы чалавек ахрыплым голасам спытаў:

— Хто там?

— Свае людзі,—адказаў я.


Калі ўжо так цікава, дык паслухай...

# З нам і і наш

з артыкулу Л. Авэрбаха

З НАМІ, але ня наш—так адгукаўся Ленін аб Троцкім у аднэй гутарцы з Горкім. З намі і наш—вітае ленінская краіна Горкага, Горкага—бальшавіцкага публіцыста, Горкага—пролетарскага пісьменьніка, Горкага—будаўніка соцыялістычнай культуры.

Горкі сягоньня з намі як наш. Горкі ідзе ў першых атрадах авангарду сусьветнай рэволюцыі. Ён ідзе не як саюзьнік—больш або менш часовы, больш або менш пастаянны, больш або менш надзейны,—ён ідзе як свой. Ён—шасьцідзесяцітрохгадовы—ідзе не як спачувальны—нават актыўна,—ён ідзе як перадавы змагар пабудовы соцыялізму. Яго імя гучыць сёньня ваяўнічым заклікам, яркім сыгналам, мужнай бадзёрасьцю клясы, за якой гістарычнае заўтра чалавецтва, заўтра, ужо перамагаючае ў сёняшнім дні ва ўсім сьвеце, заўтра, ужо перамогшае на аднэй шостай частцы сьвету.

Вы жадаеце ведаць, што нясе гэтае заўтра? Паглядзеце на Горкага. У нас не заўсёды помняць, што Горкі ня граф, якім быў Талстой, не дваранін са старым імем або маёнткамі, якімі былі многія і многія з лепшых пісьменьнікаў расійскага мінулага, што Горкі, які стаіць сёньня на самых высокіх узвышшах чалавечай культуры,—гэта Горкі „плебей“—аб чым яму і напаміналі не аднойчы буржуйскія агіды прыкладу Зінаіды Гіпіус, гэта Горкі—чалавек з „нізоў“, гэта Горкі—самародак, адзін з Пяшковых, які стаў Горкім.

Горкі з намі і Горкі наш,—такім яго зрабіла практыка пролетарыяту, бальшавіцкая партыя, створаная і кіруемая Леніным пяцігодка, якая выконваецца пад кіраўніцтвам т. Сталіна—лепшага вучня Леніна.

Горкі стаіць на самых высокіх узвышшах чалавечай культуры іменна таму, што ён пролетарскі пісьменьнік—сёнешні мастак і публіцыст нашай рэволюцыі.

Лепшыя людзі сусьветнай інтэлігенцыі такія, як Ромэн Ролан або Тэодор Драйзэль—ідуць з намі, таму што ім зразумелы той культурны тупік, той культурны крызіс, тая небясьпека ўсёй культуры, да якіх вядзе панаваньне буржуазіі. Яны ідуць да нас, адштурхоўваючыся адтуль і таму часта прымаюць наша новае толькі адсюль—дагэтуль, нават адносячыся з агідай да мінулага, ад якога яны адштурхоўваюцца. Яны ня могуць ня ісьці і ня прыходзіць да нас,—калі іх вочы не засьцілаюцца клясавай выгодай капіталізму. Горкага на ўзвышшы культуры ўзьнімала рабочая кляса, паказваючы найвялікшыя магчымасьці, якія нясе пролетарская культура, і Горкі станавіўся і стаў Горкім іменна таму, што шлях Кліма Самгіна быў шляхам яму варожым, што ён станавіўся сусьветным пісьменьнікам, не адрываючыся ад пролетарыяту, што гэты пролетарыят яго вылучаў, што ён не паставіў сябе ў становішча „сумленнасьці“, як, напрыклад, Ролан у часе сусьветнай вайны і некаторыя другія нават і цяпер, але таму, што Горкі ўсім сваім шляхам і ўсё сваёй працай паказаў недарэчнасьць і рэакцыйнасьць якой-бы то ні было прэтэнзыі на асобную ролю інтэлігенцыі ў адносіне да політыкі пролетарыяту.

Загэтым па Горкаму раўняюцца савецкія спэцыялісты і армія працаўнікоў культурнага фронту—гэта раўняюцца тыя дзесяткі і сотні тысяч, якія змагаліся і змагаюцца пад кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі і разам з мільёнамі ўсіх працоўных супроць шкоднікаў, супроць агентуры кулацтва, контррэволюцыі, замежнай інтэрвэнцыі.

Мы вітаем Горкага і чакаем яго як гордасьць пролетарскай культуры, як чалавека, які паказвае і выражае сілы ўплываў ідэй ленінізму на ўсіх культурных працаўнікоў, якія ідуць пад сьцягам бальшавізму для змаганьня супроць барбарства капіталізму.

# МАКСІМУ ГОРКАМУ

## ВЕРШ АЛЕСЯ РОЗНА

Тады—
прыходзілі гады
Нясьпелай песьняй, незапетай...
Поэт расчулены тады
Пісаў сьлязьлівыя сонэты.
На ўвесь свой просты,
дужы стан
У доўгіх буднях цяжкай працы,
Так няпрыкметна вырастаў
Такі адважны вобраз—
Маці.
Яе найдаражэйшы сын
У завірусе забастоўкі.
Разблытаў вецер валасы
Ня выпаў кошык з
пальцаў тонкіх.
Яна—
рабочым ля варот
Раздала кіпы проклямацый. .
. . . . . . . . . . . .
І гэты стан,
праз колькі год
Такі сапраўдны шлях намацаў.

Тады—
прыходзілі гады
Шукалі найвялікшай песьні
І вось таму прышоў тады
Такі змагар і буравесьнік.
І вобраз маладых поэм
Праз навальніцы й сьнег
пранёс ты
І ў эру найвялікшых эр
Прышоў вялізарны і просты.
Ў забытым шэлесьце гаёў
Раскідалі эпохі косьці...
Пяро старэчае тваё—
Вялікі сымболь маладосьці.
І песьня кожная—
змагар,
Пропагандысты, агітатар...
І слова кожнае—
наган,
І слова кожнае—
граната...
Такая сіла і разьбег,
Звычайны колер атрамэнту...

Таму—
праклёны на цябе
Ляцяць у дальняе Сорэнто:
Атрад пісак штодзень плюе,
Бярэ за гэта гонорары;
Ім словы дужыя твае
Наносяць моцныя удары.
Таму—
у гэты дзень, калі
Мы горда ўзносім рыштаваньні.
Куткі працоўнае зямлі
Табе прыносяць прывітаньне...
Твой вобраз,
у гадох стары,
Ў вялікай моладасьці просты—
Ўзьнясуць сягоньня змагары
Як найвялікшы вобраз росту.
Прыносяць гонар каласы
І домнамі вітае кляса
Бо гордае імя—
Максім,—
Заўсёды
наша...



# ШЛЯХАМ ПЕРАМОГ

НАРЫС Я. ДОРСКАГА

Было так...

Восем гаспадарак вёсак Губічы і Раўбічы, Астрашыцка-Гарадзецкага сельсавету, організавалі маленькі колгас.

Восем гаспадароў вёсак Губічы і Раўбічы зразумелі, што на іх шлях павінны стаць яшчэ і яшчэ дзесяткі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Восем гаспадароў, пад кіраўніцтвам братоў Няхайчыка Міколы і Алеся, раскінуліся па ўсіх хутарох і вёсках, землі якіх аблягаюць палі колгасу, клікаць да сябе. І даўгія зімовыя вечары праседжвалі і тлумачылі беднякам і сераднякам тое, чаму яны павярнулі на шлях колектывізацыі. Вецер у зімовыя ночы кідаў сьнегам. Было балюча і холадна ісьці. Але восем чалавек ішлі сьнегавымі сумётамі, пракладваючы шлях у сьнегавым бездарожжы, каб пракласьці больш вялікі шлях дзесяткам бядняцка-серадняцкіх гаспадарак—шлях у колгас. І да васьмі гаспадарак, у выніку вялікай растлумачальнай працы, пачалі далучацца яшчэ і яшчэ, пакуль не дайшло да ста дваццаці.

Гэта была вялікая перамога. Гэта была ўжо вялікая сіла. І гэта сіла пачала рыхтавацца да працы, да правядзеньня бальшавіцкай вясны.

Пустыя шэрыя туманы навісалі над сьнегавой пасьцельлю. Елі сьнег. Хавалі сонца. Грэлі людзей. І зямля набухала сілаю. Набухала вільгацьцю, цёплай і жывучаю. І новы колгас рыхтаваўся да сяўбы. Абагульвалі насеньне і жывёлу, складалі плян.

Кулакі ўпэўніліся, што расьце вялікая сіла – варожая ім і яны яшчэ больш напружылі свае сілы, каб перамагчы яе.

Кожную ноч да колгасьніка Няхайчыка Міколы Міхайлава хадзілі кулакі. Былі цяжкія кулацкія словы. І ў гэтых хітрых словах было шмат абяцаньняў. І хмелем нагрэтая кроў рабіла сваю справу. Кулак заўладаў кавалём.

Каваль Няхайчык Мікола першы вышаў з колгасу, а за ім яго зяць, яго дзядзька, яго суседзі.

Спавіты шэрымі туманамі таяў сьнег, а ў колгасе:

— 120.

— 100.

— 80.

Неба над колгасам стала трывожна. І думкі трывожнымі былі. Але кіраўнікі колгасу апамяталіся, кулацкім словам былі супроцьпастаўлены сталёвыя словы ленінскай праўды. Жыцьцё, клясавая барацьба нарадзіла масавую работу і ніжэй 80 не пайшло.

— Ну, зараз больш ніхто з колгасу ня выйдзе,—казалі колгасьнікі,—зараз працаваць.

Але як рабіць. Пляны былі пабудаваны на 120 гаспадарак, зямлі адведзена на 120, людзі разьбіты на брыгады з уліку 120 гаспадарак, а ў колгасе засталося 80. Як справімся? І ў новых колгасьнікаў, якіх ужо пасьпеў трохі абсівераць вецер клясавай барацьбы, нарадзіўся плян.

Сустрэчны...

— Апрацуем 80 гаспадаркамі тое, што зьбіраліся зрабіць 120. Не дамо пуставаць зямлі. Зямля павінна нарадзіць нам перамогу!..

І колгасьнікі выходзілі ў поле. Брыгадамі ў 10—15 плугоў яны раскінуліся па веснавых палях. Руйнавалі межы. Хавалі старое, каб нарадзіць вялікае новае. І калі ноч кідала адну цёмную цень, людзі клаліся адпачываць там-жа, дзе і канчалі працу, каб раным рана зноў узяцца за працу цяжкую і радасную.

**Пляны веснавой сяўбы—сустрэчныя пляны, былі перавыкананы на 7,5 проц. У колгас уліліся 4 гаспадаркі.**

* * *

Сяўбу замяніла касьба, а ў выходныя дні—ў нядзелю рабілі суботнікі, езьдзілі ў лес за бярвеньнямі, будавалі—пабудавалі два сьвінарнікі, хлеў, сілосную вежу, парнікі...

І кулакі не паслабляюць сваёй працы. Адзін мэтод працы зьмяняе другі. У гэты момант яны пачынаюць агітаваць за разбазараваньне. Агітуюць прыкладам. Хітра і асьцярожна. Пакулацку.

Кулак Халькоўскі Войцах усякімі праўдамі і няпраўдамі пралязае ў колгас. У яго: 4 каровы, 2 цёлкі, бык.

Колгасьнікі прапануюць яму абагуліць жывёлу, а ён:

— Каровы дзікія, ня ідуць, колькі цягнуў—ня ідуць.

І з-пад цішка прадае карову. Тады, калі яго прыклад пачынае быць заразіцельным, яго выкідваюць з колгасу...

* * *

Апаў кволы цьвет таполяў. Скасілі ўсе сенажаці. Ні каліва сена не засталося. Надышла гарачая пара ўборкі, і трэба было ўбраць усё тое, што было пасеена ў выніку сустрэчнага пляну. Працы шмат. У гэты час у колгас падае заяву Барташэвіч Філіцыён. Ён паказвае сябе актывістам. Майстар на ўсе рукі.

Ня любілі яго колгасьнікі за словы кулацкія, якія кідаў з-пад цішка. Ня любілі за погляд халодны, але спэц.

— Бачылі, ня наш, —кажуць колгасьнікі.—Але спэц.

Восень здарылася мокрая, дажджлівая, цяжкая для ўборкі. Трывожная для колгасьнікаў. Людзей мала. Дажджы...

І сапсавалася аднойчы жняярка. Папрасілі „спэца“ Барташэвіча Філіцыёна адрамантаваць, а ён—

— Не ўжо, браткі, разучыўся я рамантаваць. Не магу, самі ўжо рамантуйце.

І адказаў яму старшыня колгасу Мурашка Даніла:

— Ты як спэц ня можаш, а мы ня спэцы ды пакажам табе справу.

І пайшоў Даніла, а разам з ім хлапцы Міхалевіч, Барташэвіч Яўген. Пашукалі ў тайнах незнаёмых частак хворую частку і... адрамантавалі жняярку. Барташэвіч быў выкінуты з колгасу.

Уборачную кампанію колгасьнікі скончылі з вялікім посьпехам. Перамаглі ня толькі людзей, але і прыроду. Тады прыступілі да разьмеркаваньня.



РАБОЧЫ ДОМ АДПАЧЫНКУ. ЖДАНОВІЧЫ



**Тэхніку на савецкія палі. Вынаходца т. Золатаў на ворыве сваім спэц.-фрэзарам,**

Кулак крычаў:

— Не падзеліцеся!

Колгасьнікі адказалі:

— Падзелімся.

Кулак крычаў:

— Дзяleце па-душах, па-едаках!

Колгасьнікі адказалі:

— Будзем дзяліцца па працоўных днях.

Падзялілі прыбытак па працоўных днях, выкрылі лодыраў. Даказалі:

— Хто не працуе, той ня есьць.

Пасьля разьмеркаваньня ўраджаю правodзілі справаздачу аб сваіх перамогах перад аднаасобнікамі, і пачаўся новы прыліў.

* * *

Сьнег адлівае сінявою. Закідаў ён сьцежкі. Хаваў дарогі. Конь асьцярожна нашчупвае цьвёрдасьць шляхоў. Гэта колгас „Новы шлях“ вывозіць гной. Гэта колгас „Новы шлях“ возіць лес. Гэта колгас „Новы шлях“ рыхтуецца да веснавой сяўбы.

Увесь інвэнтар быў адрамантаваны яшчэ да 15-га сакавіка. Ачышчана насеньне. Раней чысьцілі ў адну зьмену, а потым:

— Трэба скончыць хутчэй. Трэба даць індывідуальнікам арфу. І пачалі чысьціць у дзьве зьмены.

Таму, што колгасьнікі не забывалі аднаасобнікаў, таму, што ўдзень колгасьнікі рыхтаваліся да веснавой сяўбы, а ўвечары праводзілі сходы і гутаркі з неколгасьнікамі, прыліў усё рос і рос. І вёска Ўзбор'е, якая маленькім астраўком была ў моры колгасу, стала шостым аддзяленьнем колгасу „Новы шлях“.

Зараз у колгасе 165 гаспадарак. Раён колгасу колектывізаваны на 85 проц.

— Застануцца да вясны толькі тыя, каго мы ня прымем,—кажуць колгасьнікі...

* * *

— Цяпер усюды свае,—сьмяюцца колгасьнікі.—Старшыня колгасу наш, старшыня сельсавету наш, старшыня колгасу „Прамень соцыялізму“ наш.

Сапраўды, колгасьнікі пацьвердзілі справай сталінскія словы аб тым, што з асяродку колгасу будуць вылучацца жыцьцём дзесяткі і сотні організатараў і агітатараў колгаснага руху.



ЗАВОД „ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ“ ВЫПУСЬЦІЎ ПЕРШЫЯ У БССР ХЛЕБАРЭЗКІ



ГОМЕЛЬ. ПАБУДОВАНЫ ДАМЫ ДЛЯ РАБОЧЫХ

З ХРОНІКІ ПАВОДКІ У МЕНСКУ.









ЗАВОД „ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ“ ВЫПУСЬЦІЎ ПЕРШЫЯ У БССР ХЛЕБАРЭЗКІ



ПІСЬМЕНЬНІКІ, ЯКІЯ ВЫЕХАЛІ Ў КОЛГАСЫ

# ТЭЛЕГРАФНЫ БАЛАГОЛ САЙКА

НАРЫС В. СТАШЭЎСКАГА

САЙКА Балагол возіць людзей на станцыю, прывозіць са станцыі і, паглядзейшы на яго, здаецца што ў мястэчку нічога не зьмянілася. Ён так і кажа тым пасажырам, якія даўно ня былі ў мястэчку. Але гэта ён кажа так толькі спачатку. Ён крыху праедзе, спыніцца, паправіць вупраж, паглядзіць на ўсіх пасажыраў, асабліва на незнаёмага, папросіць у яго папяроску. Адным словам больш-менш „вывучыць" яго і тады пачне пра мястэчка. А вывучае ён па заданьню, вядомага ў мястэчку нэпмана Майзельсона і яго кампаніі, каб ведаць хто прыехаў і па якім інтарэсам. Спачатку будзе лаяць за тое, што мястэчка маларухавае, маларэволюцыйнае, што ёсьць дзівакі, якім шкада сынагогі, і што людзі не разумеюць, што такое соцыялізм.

Калі толькі пасажыр разгаворыцца, Сайка тады пачынае даваць яму запытаньні.

Вось аднаго разу ўзяў ён пяць чалавек пасажыраў. Два знаёмыя, тры незнаёмыя, але з трох незнаёмых, адзін толькі і падобны на якога-небудзь начальніка.

У ніштаватым ватнім паліце, добрай зімовай шапцы з вушамі. Чамаданчык і портфэль. Глянуў Сайка і адразу падумаў: „партэйны". Пасадзіў у найлепшае месца.

— Вецер будзе таварыш сьпераду. Сядайце ўпераду на мяккі мяшок з сенам і ён вам будзе ўзад. Згодны?

— Ну, ладна,—адказаў „партэйны" і сеў.

Паехалі.

— У вас, напэўна, добрыя папяроскі?

— Нет, знаеце,—адказаў пасажыр.

— А вы хіба ня курашчы?

— Нет куру, да вышлі знаеце.

— Калі не паганьбуеце, то я пачустую вас сваімі.

— Нет, пажалуста, пажалуста, с удовольсьцьвіем.

„Відаць, добры чалавек, можна будзе разгаварыцца" і Сайка пачынае.

— Вы наша мястэчка ведаеце?

— Так, праездам.

— Нашага народу ня ведаеце?

— Да, плоха.

— То я вам скажу, што ў нас розны народ. Ёсьць такія, што яму аднэй рэволюцыі мала. Дай яму дзесяць і то ён яшчэ будзе думаць: а што гэта такое. Я сам, як вам зьвесна, балагол. Конь. Добры конь—добры балагол, дрэнны конь—дрэнны балагол. Балагол меў голас толькі на каня: „Но і тпру". Што, мо' скажаце няправільна?

— Правільна, правільна.

— Але ці было гэта правільна?

— Няправільна.

— Значыць, я кажу правільна. І я вам скажу, як на чый характар. Чаму я з вамі гавару? Бо я заўважаю па чалавеку і ведаю, што вы чалавек палітычны і далікатны. Калі я дзе памылюся—паправіце. Правільна?

— Да, канечна.

— Дык вось, я хачу расказаць вам тое, пра што я хацеў расказаць. Забіралі мы сынагогу.

— А гэта гдзе-ж?

— У нас, у мястэчку. Пакуль-што ўзялі сынагогу, а далей будуць забіраць царкву. Ну, дык што вы думаеце? Я хоць не профсаюзны, але я першы ішоў забіраць сынагогу. Бо на што мне цягнуцца ў хвасьце?

— Рэйд зых он! (брашы, брашы)—заўважыла адна пасажырка.

— Ун ду штэк ніт дэм ноз (а ты ня ўтыкай носу),—адсек ёй Сайка.

— Вы па-яўрэйску разумееце?—зьвярнуўся Сайка да пасажыра.

— Нет.

— Яна кажа, што я маладзец. Слава богу, што ня дурак.

Нагаварыўся Сайка пакуль даехалі да мястэча. Вылажыў „партэйнаму" пасажыру ўсе свае „рэволюцыйныя" заслугі перад грамадзянамі мястэчка. Перашоў да запытаньняў. А пасажыр дрэмле. Адказвае нехаця і то: альбо „да", альбо „нет".

— Хітры,—думае Сайка.—А ведаеце, я аднаго разу падвозіў **двух начальнікаў. Ні то што начальнікаў (гэта значыць, як вы),**

а нешта мусіць вышэй: адзін быў камісар, а другі профэсар. О. гэта дык людзі! Я з імі нагаварыўся мо' на цэлы год. Але, што ні запытай, яны та<е ў момант адказваюць.

— Н-да,—прамармытаў пасажыр. А нос трымае ў каўняры.

-- Ну, калі так, то трасцу я табе дам, а не папяросу. Сайка закурыў, доўгі час ехалі моўчкі.

Пад'яжджаючы да мястэчка, Сайка ізноў пайшоў у атаку·

— Ну, вось і мястэчка,

Пасажыр падняў галаву:

— Да.

„Каб табе дакала ў пячонкі. Няўжо-ж я прывязу цябе ў мястэчка і ня буду ведаць, хто ты такі. Мусіць, прыдзецца сапсаваць яшчэ адну папяроску". Закруціце?

— З удавольсьцьвіем.

Бярэ. Курыць.

— Вы, мусіць, па партэйных інтарэсах?

— Гм... нет.

— Па профсаюзных?

— Нет.

— А вы чулі, што ў нас мяркуюць будаваць нейкі комбінат?

— Так, слыхал.

„О, цяпер я ведаю, хто вы такі. А што ён скажа на гэта?"

— Я думаю, што калі добра пастарацца, дык праз некалькі гадоў з нашага мястэчка можна будзе зрабіць падхадзячы горад.

— Ну, я тут сьлязаю,—сказаў пасажыр.

— Тпру, вы тут злазіце? Дзе вы тут, у каго спыняецеся?

— Да вот, тут,—нехаця адказаў пасажыр.

Сайка далікатна дастаў чэмаданчык:

— Я вам паднясу.

— Нет, спасіба.

Забраў і пайшоў у дом папа. Сайка паглядзеў:

— Гэрст? (чуеш) Вось дык партэйны.

— Што ты вылупіўся?—пытае тая жанчына, што сказала: „брашы брашы".

— Ён пайшоў да папа.

— Ну, поп да папа і пайшоў.

— Ён поп?

— Ён новы бацянскі поп. Ужо з месяц там.

— Ой, колькі я добрых слоў выпусьціў на вецер. Но, сівы—сьцебануў Сайка сівага, каб хутчэй давёз да дому.

Увечары ён нікуды ня выходзіў з хаты. А трэба выйсьці патупаць па мястэчку, падшукаць пасажыраў. „Не пайду, каму трэба, той мяне знойдзе".



У колгасе.

Але-ж Сайка ня толькі балагол, які набыў сабе гэтае слаўвечка ва ўласнасьць, не. Ён разам з гэтым і жывы тэлеграф. Калі-б ён меў якія навіны, ён-бы вышаў на мястэчка, сказаў-бы. аднаму, двум і пайшло.

Сайка не паказваецца. А можа ён здароў ці прамёрз. А што значыць каму-небудзь з кампаніі Майзельсона прыці да Сайкі на кватэру. Хоць сёньня і няма аб чым гаварыць, але каб прышоў хто-небудзь. Са ка мог-бы пагутарыць.

Ідзе Нохім. Зусім неінтарэсная фігура.

— Скажы, што я хворы і сьплю і мяне няма дома,—загадаў Сайка жонцы і кінуўся на тапчан.

Увайшоу Нохім.

— Не чапай Сайкі, ён нездаровы і толькі-што заснуў,—папярэдзіла жонка.

Нохім вышаў.

Сайка падняўся.

Праз нізенькія вокны Нохіму добра відаць, што Сайка падняўся. Дык ён уставіўся ў верхнюю папярочную шыбу і заве:

— Сайка!

— Чаго табе трэба. Ты ня бачыш, што я хворы і сьплю?—закрычаў Сайка.

— Ну, бачу, дык я-ж і не чапаю. Я іду дадому. Пайшоў.

Сайка адразу ўстаў, ходзіць па хаце і думае: „Што я маю з таго, што перадаю ім розныя навіны? Каму ад гэтага лягчэй, альбо каму ад гэтага цяжэй? Ну, Майзельсон хоць швагер. А што за цацка Нохім? Скула. Скула, якая заўсёды нарывае і ніколі ня можа прарваць. Майзельсон—швагер. Яго жонка і мая жонка—сёстры. Ён узяў прыгожую, а мне тое, што засталося. А сказаць, што-б ён да мяне вельмі добрым быў, дык не. А яна.. яна ня дасьць чалавеку слабодна плюнуць на яе падлогу. Чорт цябе бяры. Я буду пляваць на сваю".

Плюнуў.

На падлозе сядзеў дзесяцігадовы сын Рувім. Падняў на бацьку лупаценькія вочы:

— Чаго ты каля мяне плюеш?

Бацька спыніўся:

— А што ты тут робіш?

— Нічога.

— Як нічога?

— Ты-ж бачыш, што трактар.

— А што ім гэтым трактарам, робяць?

— Аруць зямлю і балота.

Бацька прысеў і доўга разглядаў як Рувім уважна прыстасоўваў да „трактара" колы.

— А хто яго будзе цягнуць гэты твой трактар?

— Ніхто. Ён такі, што сам ходзіць і яшчэ за сабою шмат цягне.

Маўчаў бацька.

Нешта лёганька ўшчыпнула яго за сэрца.

## УЛАДЗІМЕР ХАДЫКА

Я раз абраў свой дом стары,
Я папаліў гнілыя сьцены,
Я тлумам сноў дагаварыў
Над прысакам настрояў тленных.
Імглу жалоб душа кляла,
Ахвярны тлушчыла надгробак.
І шкода мне было сяла
І музыкі жытнёвай вобак.
Гула ў здарожаных касьцёх
Дню рупасьць, дзе ні заначую,—
Што больш, заціснуты ў мурох,
Я гучных вёсен не пачую.
Што не паеду на начлег
З такімі добрымі хлапцамі...

І зімы ў хлюпаце адлег
Каля жалезнай пройдуць брамы.
І вёсны ў зглушанай ганьні,
І леты ў штучным бляску камня—
Пераляцяць, як авадні,—
Адгугняць згвалчаным паданьнем.
На паскалку мінулых скрух
Варожыя засеўлі зубы.
Агонь зялёных воч патух
Ў сьліхоце роспачы і згубы.
Шляхамі новых рат і карт,
Дарогамі нястрымных плыняй—
Вяду я песен авангард
Ў агні нарэджанай краіне.

І не падыйдзе тлум крадком
Слоў любых дэсань перабльтаць.
Адчула сонца таралом
Кірунак зьмененай арбіты.
І там, дзе выў лясун і міт,
Хрыпеў разьятранай кувадай—
Кладзе адважны барацьбіт
Ставы рашучае дэкады.
Грыміць напружанай хадой
Вялікіх творцаў пакаленьне...
Ім верш двусьпеўны, сьціплы мой,
Маё прачутае ўслаўленьне.



МАГНІТАБУД — УДАРНІКІ ЗА ПРАЦАЙ

# МАЛАДЫ ПЛЫТАГОН

ВЕРШ А. ПРУДНІКАВ

НА́ беразе
на пакатым—
Ярусы бярвеньня смалянога,
Гэта сосен ствалы чубатых,
Якія расьлі на аблогах,
Якія у пушчах засьнежаных
Незакранутымі стаялі,
Сочучы,
Як месяц-ліхтар падвешаны
Хістаўся адзін над палямі.
А ў раньні вершалін далоні
да сонца ўвысь працягвалі...
Здавалася—
Рынуцца на ўлоньне,
На далячынь неабсяжную.
Гады ім дадалі дужасьці,
Не ахапіць—таўшчынёю.
— Цяжка з такімі
піле падужыцца,—
Галасіла піла шчанём.
Сырымі іх вывезьлі з лесу
І палажылі на беразе
Для сплаву
Ў краі бязьлесныя,
Дзе доўгія гладзі, ды зоры ўверсе;
Там шахты Донбасу—
Стоек
Чакаюць у вузкія штрэкі,
Каб падкрапіць стопудовыя столі іх
Новым і дужым крэпам.

На якары лес стаяў
зьвязаным у грабёнкі,
калі пазнаёміўся я
у будцы дарожнай
з Сёмкам.
— Раніцаю адплывём—
кінуў слоўца ў бок,
і квола вачыма правёў
паказваючы на бонт.
— Хлопец ты добры, відаць,
бяры сабе лепшы шост.—
Яму я руку падаў
і разам на прыстань пашоў.
Вячэралі: рыбу і бульбу
ля вогнішча мы гурбой...
Рака, стагнала бабулькаю,
кідаючыся на бонт.
— Уставай, плытагон малады—
Пабудзілі мяне ўраньні.
Над вадою,
і каля вады
паразьвешаліся туманы.
Крануліся,
і...
лугі
знаёмыя нас пакідаюць;
адзін за другім загіб—
і новых абшараў далеч.
Злуе калі плынь ракі—
штыль у руках трымай.

Практыкаваныя плытнікі
на вяку сустракалі шмат.
Неба ў вір празрысты
упала і там—нярухома.
Мінаем за прыстаньню
прыстань—
Радасьць усім і, нікому.
Камлі набракаюць вадою,
ногі мне хвалі ліжуць,
і шлях карацее доўгі,
і адпачынак бліжай.
Жаўранкі, быццам бомы.
ў надхмарным блакіце сьпяваюць
адзін на падмен другому...
Толькі падмену няма нам.
— Глядзець табе на плыты,
зоркае, вока, плытагона.
Напагатове трымаць штыль
Мэтраў у сем пагонных.
— Эх, хлопцы.—
Я задаволен,
Што ўзялі мяне з сабой.
Дагонім да Кіева
і на Волгу
пойдзем усе гурбой.
... Так плыў малады плытагон
уздоўж па Дняпры на грабёнцы.
Праходзілі постаці дзён
Шырокім гасьцінцам пад сонцам.

# ТУТ РАМАНТУЕЦЦА ЗДАРОЎЕ ПРАЦОЎНЫХ

Нарыс БАЗ. РУМЯНЦА



ПОЛАЦК. ДОМ АДПАЧЫНКУ.

Кілёмэтраў за 50 на поўдзень ад гор. Полацку знаходзіцца невялічкая вёска Баркоўшчына. Звычайныя прыземістыя хаціны, пакрытыя пачарнеўшай ад часу і дажджоў саломай, дзівяцца на шырокія жытнёвыя загоны прыплюшчанымі вачыма вокан. Каля хацін рэдкія яблыні перашэптваюцца лісьцем з подыхам пералётнага ветрыку. Нічым, здаецца, не адрозьніваецца гэтая вёска ад дзесяткаў такіх-жа вёсак Вушацкага раёну, хіба толькі тым, што Баркоўшчына мае краму мясцовага спажывецкага таварыства, куды часта зьбіраюцца сяляне, каб купіць што-колечы ды, сустрэўшыся з новымі людзьмі, пагаварыць пра жыцьцёвыя справы.

Між тым далёка, нават за межамі Полаччыны, вядома Баркоўшчына. Пра яе калісьці пісалі беларускія газэты, прыцягваючы ўвагу савецкай грамадзкасьці. Славіцца гэтая мясцовасьць сваімі серка-жалезістымі водамі і, ва ўмовах Беларусі, зьяўляецца курортам.

І сапраўды, такі маляўнічы краявід, такое чароўнае месца сустракаецца рэдка. Куды ня кінеш вокам, высяцца ўзгоркі, апавітыя рунеючымі жытамі, віднеюцца раскіданыя ў беспарадку беларускія вёскі. І тут побач, на пясчанай глебе, сінее хваёвы лес, застыўшы нярухомым ва ўсёй прыгожасьці. У глыбокай-жа шырачэзнай лагчыне, з усіх бакоў закупоранай узгоркамі, разьляглося возера з адхоннымі берагамі падымаючыся ступенькамі, горда імкнуцца к небу маладыя хвоі. Ніколі не хвалююцца азёрныя воды ад непакойнага ветру, бо загароджаны яны сьцяной узгорку і лесу. Баркоўшчына знаходзіцца на 100 мэтраў вышэй, чым ваколіцы Полацку, і гэтая акалічнасьць стварае лепшыя ўмовы і абставіны для адпачынку і водалячэньня нэрвова хворых.

Старыя сяляне апавядаюць нібы-та даўным-даўно немцы былі абсталявалі тут сапраўдны курорт, па сваёй якасьці няхужэйшы, чым вядомыя расійскія курорты з серка-жалезістымі водамі. Прыяжджалі, гавораць, сюды нейкія паны з гарадоў, лячыліся і, нібы-та, вада здорава дзейнічала на хворых. З цягам часу разбурыўся курорт, зьніклі будынкі, разабраныя вакольнымі сялянамі, пяць серка-жалезістых крыніц запусьцелі, зарасьлі травой і не скарыстоўваліся ні кім.

І яшчэ старыя сяляне апавядаюць, што па вёсках, нават, далёка па-за раёнам хадзілі чуткі пра цудоўныя крыніцы. Адзін, выпадкова прыехаўшы сюды, урач, на сваім уласным вопыце ўпэўніўся, што крыніцы Баркоўшчыны маюць надзвычайную каштоўнасьць і багатую пэрспэктыву. Гэта яшчэ больш падняло аўтарытэт мясцовасьці. Гаварылі пра крыніцы, выдумваліся байкі пра „сьвятую цудоўнасьць" крынічнае вады, плавалі рознаколерныя чуткі, а крыніцы тымчасам захоўваліся пад хмызьняком, зарасталі шаўковай зеленьню травы.

У 1928 годзе толькі зарадзілася ідэя скарыстаньня крыніц.

Выехала камісія з менскімі і полацкімі ўрачамі для абсьледваньня мясцовасьці, абглядалі крыніцы, гутарылі з сялянамі, зьбіралі матэрыялы, рабілі вывады. і гэтая работа не засталася бяз вынікаў.

Цераз некаторы час над возерам, сярод хваёвага лесу вырасьлі новыя дамы, крытыя бляхай, з вялікімі вокнамі, зусім не такімі, як у сялянскіх хатах. Абсталявалі ванны, наладзілі купальню на возеры.

І цяпер тут знаходзіцца санаторы для нэрвова-хворых. Цішыня і спакой, сьвежае здаровае паветра, ванны, добра наладжанае харчаваньне ўзмацняюць нэрвы людзей. рамантуюць здароўе адпачываючых. Кожны месяц Баркоўшчына прымае 30 чалавек хворых. З пуцёўкамі Наркомату Здароўя прыяжджаюць сюды з усіх куткоў Савецкай Беларусі рабочыя, служачыя, працоўнае сялянства, жадаючыя часовага адпачынку і лячэньня.

У пакоях, дзе знаходзяцца адпачываючыя—прытульна і чыста, хапае сонца і паветра.

— Я ехаў сюды,—апавядае мне рабочы з Віцебску,—думаючы, што тут спаткае мяне звычайная глуш, нуда, а вышла, брат, наадварот. Не заўважаеш, як імчыцца час. Ніхто не парушае твайго адпачынку. Купаньні на возеры, пагулянкі па лесе, точны распарадак дня дзейнічаюць вельмі добра. Дый ваколіцы, тут—хараство адно. Вось прайдзеце крыху далей, там яшчэ прыгажэйшыя краявіды...

— Ну, а ці папраўляецеся вы хоць крыху—перабіваю я.

— Па-мойму, так! Ня ведаю, як з мэдыцынскага пункту гледжаньня,—прыветліва ўхмыляецца адпачываючы, – само сабой зразумела, што гэтая абстаноўка супакойвае нэрвы, надае бадзёрасьці і новае сілы.

Большасьць удзельнікаў першых трох партый сёлетняга сэзону прыбавілася ў вазе на 5-6 кілё.

— Сонца, вада і гэтае своеасаблівае жыватворчае паветра, вось хто зьяўляецца іхнымі ўрачамі,—мякка зазначае галоўны ўрач санаторыя; мы, спэцыяльныя ўрачы, у гэтай справе мала дапамагаем...

Былы нямецкі курорт Баркоўшчына адраджаецца. Новыя вялікія будыніны вырастаюць над возерам. Згодна вызначанага пляну к наступнаму году павінен пабудавацца корпус на 60 асоб. У Баркоўшчыне павінна быць сапраўдная кузьня па рамонту здароўя працоўных. У сучасны-ж момант яшчэ ня ўсё ўпарадкавана з санаторыям. Ня поўнасьцю скарыстоўваюцца серка-жалезістыя крыніцы.

Шмат яшчэ работы па абсталяваньні, але і на сёнешні дзень ужо зьніклі чуткі пра нейкую сьвятую ваду. Ваколічныя сяляне ведаюць, што гэтая мясцовасьць зьяўляецца мясцовасьцю, куды не паны з гарадоў, а такія-ж звычайныя працоўныя прыяжджаюць, каб падрамантаваць сваё здароўе для далейшай штодзеннай работы.

Перад Баркоўшчынай сапраўды багатая пэрспэктыва.



У ЧАСЕ КУПАНЬНЯ.

# НА ХВАЛЯХ КАПІТАЛІСТЫЧНАГА С




КОМПАРТЫЯ ЗАХАДУ Ў ДНІ 1-га МАЯ.

Германская компартыя выдала да 1 мая цэлы шэраг цудоўна выкананых плякатаў. На здымку адзін з плякатаў компартыі да 1 мая.




„Разбраеньне“ ў дзеяньні. Прыклад ангельскага міралюбія.



ГІШПАНІЯ. Сымвалічная дэмонстрацыя супроць монархіі ў Мадрыдзе. Натоўп вешае бюст былога дыктатара Прыма-дэ-Рывэра.



Сто тысяч тон кокса ляжыць у Вэстфаліі (Германія) і чакаюць пакупца.



Сутычка гарнякоў у Францыі. На здымку сход бастуючы

